САМАДБСЛУГОЎВАННЕ

### СУСЕДКА

Аднойчы раніцай прыбегла Оля да сваёй суседкі Мані і расказала ёй сакрэт.

— Толькі нікому аб гэтым не гавары, — прасіла Оля суседку і, каб тая захавала поўную таямніцу, дала Мані залатоўку.

На другі дзень прыбягае Маня да Олі і звяртае залатоўку:

— Бяры гэтую залатоўку, — кажа, — бо я не вытрымаю і раскажу.

Прыслаў **Васіль Якімюк**

### ЖАБРАК

— Мо' ў вас ёсць старыя боты, дык падаруйце мне іх.

— Навошта вам яны, у вас жа на нагах новенькія боты.

— Вось, вось, менавіта яны мне і псуюць цэлы інтарэс.

Прыслаў **Віктар Баран**

### ВУШЫ ТРУСІКА

— Коля, ведаеш, я хацеў бы мець такія вушы, як мае трусік. Тады я ўсё добра чуў бы.

— А я не хацеў бы мець такіх вушэй, — сказаў Коля. — Падумай толькі, як доўга трэба іх мыць.

Прысдала **Вера Кураш**






# ВЯСНА ІДЗЕ

Калі ваш кот з'яўляецца ў хаце рэдка і коратка, як пісьманосец, калі вы пачынаеце цікавіцца суседкай, на якую да гэтага часу не звярталі ўвагі, ведайце — гэта вясна ідзе.

Большасць людзей пры першым подыху вясны спяшае пачаць палявыя работы. Члены саюза філосафаў, якія адкрылі, што ад работы коні здыхаюць, спяшаюць у піўную, дзе, бы паўнаводная рака, шуміць і цячэ піва. Там гарачыя спрэчкі абмываюць любую тэму.

У піўной цьмяна ад дыму. Перад Кастусём паўдзюжыны бутэлек. Кастусь гаворыць, бы павятовы дакладчык, бы адвакат, бы Цыцэрон. Хто б падумаць мог, што піва такі натхняючы сродак!

— Сябры, сабутэльнікі! Хто з вас скажа, што такое трактар? — нечакана ставіць ён пытанне і, не атрымаўшы адказу, размотвае думку далей. Трактар — рэч старая: гною не дае, паветра атручвае, шуміць, бы сто д'яблаў у пекле. Хутка трактар будзе рэдкасцю, бы драўляная саха. Нашы дзяржаўныя органы займаюцца цяпер электрыфікацыяй вёскі. Бы трамваі неўзабаве загудуць на палях электрамашыны.

— Вось тут ты і ўліп! — крыкнуў слухач з казлінай бародкай, які выглядам нагадваў вучонага. Ён, загінаючы пальцы, пачаў пералічваць.

— Першае — трамвай па полі не палезе. Другое — трамвай без дроту, бы фурманка без калёс. Трэцяе — электрыфікацыя, гэта помпы пры студнях, электрадаенне кароў, электразапальнічка для курцоў. А дзе ў нас спецыялісты для канцэнтрыравання машын?!

Кастусь хутка вярнуў ініцыятыву:

— Эй, ты, канцэнтрат! Ты хацеў сказаць «кансерavailable» 

— Эй, ты, канцэнтрат! Ты хацеў сказаць «кансервіраванне машын»? Грамадзяне, вось такі барадаты напампуецца півам і ўяўляе сябе членам карэспандэнтам акадэміі навук. Электрыфікацыю разумець трэба. Мы да электрамашын барадатых не падпусцім. Барада пры электрамашыне — анахранізм.

Тут Кастусь паглядзеў на пустыя бутэлькі і крыкнуў:

— Прашу два піва!

Буфетчык развёў рукамі: піва кончылася.

— Пры электрыфікацыі, мы за паўгадзіны дзесяць бочак даставілі б трамваем, — летуценна адзначыў нехта.

У гэты час дзверы піўной адчыніліся, прапускаючы дзядзьку ў кажусе. Дзядзька падаў буфетчыку паперку і сказаў:

— Вясна прышла, дарога — хай яе ліха! На фурманцы тры бочкі піва, можаце разладоўваць, а я вам не работнік. Намучыўся па дарозе, бы д'ябал на малебне.

— Аказваецца пакуль і без электрыфікацыі жыць можна, — сказаў радасна Кастусь, укочваючы першую бочку.

Пасяджэнне працягвалася. А за вокнамі хадзіла вясна і прыпамінала ў кожным панадворку, што сустракаць яе не падрыхтаваліся.

*Дзядзька Лявон*

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Дарагая рэдакцыя! Вельмі прыемна, што Вы пачалі змяшчаць «Песні па заяўках». Гэта вельмі добрая і карысная з'ява для ўсіх тых, хто любіць песні. Я найбольш люблю рэвалюцыйныя песні. З іх вельмі мне падабаецца савецкая песня «За фабрычнай заставай», якую і прашу змясціць у «Ніве».

**Ніна Ціха**
Тафілаўцы, Гайнаўскі павет

**Калі ласка:**

## За фабрычнай заставай

**(Песня з кінафільма «Яны былі першымі»)**

**Словы Е. Далматоўскага** **Музыка М. Фрадкіна**



За фабричной заставой,
Где закаты в дыму
Жил парнишка кудрявый,
Лет семнадцать ему...

О весенних рассветах
Тот парнишка мечтал,
Мало видел он света,
Добрых слов не слыхал.

Знал он горькое лихо,
Знал безрадостный труд.
Жил на улице тихой,
Где с гудками встают...

Парню очень хотелось
Счастье здесь увидать.
За рабочее дело
Он ушел воевать...

Рядом с девушкой верной
Был он тих и несмел,
Ей любви своей первой
Обьяснить не умел.

И она не успела
Даже слова сказать...
За рабочее дело
Он ушел воевать.

Но порубаный саблей.
Он на землю упал.
Кровь ей отдал до капли,
На прощанье сказал:

«Умираю, но скоро
Наше солнце взойдет...»
Шел парнишке в ту пору
Восемнадцатый год.



Любіць... не любіць...



### ПРАПАЛІ

Адзін гаспадар заявіў у міліцыю, што ў яго прапалі грошы. Прыйшоў да яго міліцыянер, перавярнуў усю хату, а грошай сапраўды няма. Умарыўся, бедны, і не ведае што рабіць далей. Тады падыходзіць да яго найменшая дачка і кажа:

— Вы грошай не знойдзеце, бо яны закапаны пад падлогай.

Прыслаў **Коля Федарук**



**Бім-Бон! — Бім-Бон!**

### У РЭДАКЦЫІ «НІВЫ»

— Таварыш рэдактар, ці мае жарты будуць змешчаны ў «Ніве»?

— Не, не будуць — нейкія яны халодныя.

— А я над імі толькі пацеў.

Прыслаў **Ніл Грэсь**

### КРАЎЧЫХІ

— Што робяць вашы дзяўчаты?

— Шыюць ды спяваюць.

— А маці?

— Пора ды плача.

Прыслаў **Мікалай Аксенцюк**

### ЗДАРЭННЕ Ў ШКОЛЕ

Вяртаецца Янка са школы з плачам: настаўніца паставіла двойку.

Маці: — А чаму ж ты не займаўся?

Янка: — Як жа не, глядзі, які ў сшытку прыгожы бусел.

Маці: — Чаму ж тады настаўніца паставіла двойку?

Янка: — Бо... я... я... рысаваў на лекцыі арыфметыкі.

Прыслала **Анна Вараньчук**